# КРЫНІЦА

№5(23) КАСТРЫЧНІК 2011 www.bchd.info




# IV З'ЕЗД БХД 17 СНЕЖНЯ

**Аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» распачаў падрыхтоўку да правядзення Чацвёртага ўстаноўчага з'езду партыі, які плануецца правесці 17 снежня. Рашэнне аб гэтым 17 верасня ў Менску прыняла Нацыянальная Рада БХД.**

На Радзе прысутнічалі сустаршыні аргкамітэту Віталь Рымашэўскі, Георгі Дзмітрук і Алексей Шэін, адказны сакратар Дзяніс Садоўскі, рэгіянальныя кіраўнікі Таццяна Севярынец, Таісія Кабанчук, Юры Клімовіч, Мікола Баўсюк ды іншыя сябры і актывісты БХД. На жаль, у Нацыянальнай Радзе не змаглі ўзяць удзел асуджаныя па палітычных матывах сустаршыня аргкамітэту Павал Севярынец і берасцейскі абласны каардынатар Зміцер Шурхай. Разам з тым сябры БХД змаглі заслухаць відэазварот Паўла Севярынца, які адбывае пакаранне ў Пружанскім раёне.

Як адзначыў Віталь Рымашэўскі, рэгістрацыя БХД у якасці партыі абароніць актывістаў ад крымінальнага пераследу па артыкуле 193 КК Беларусі, які прадугледжвае адказнасць за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. «Больш за тое, людзі павінны ведаць, што «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» дзейнічае развіваецца», – зазначыў Георгі Дзмітрук.

Удзельнікі Нацыянальнай Рады, улічыўшы недахопы мінулых спробаў рэгістрацыі, абмеркавалі арганізацыйныя моманты правядзення Устаноўчага сходу і рэгістрацыі партыі. Разам з тым, кіраўніцтва БХД не мае ілюзіяў, што ўлады пойдуць на рэгістрацыю партыі і не будуць перашкаджаць дзейнасці сябраў аргкамітэта.

Таксама на Нацыянальнай Радзе былі абмеркаваны бягучая сацыяльна-палітычная і эканамічная сітуацыя ў Беларусі, стаўленне міжнароднай супрольнасці да падзей у Беларусі, супрацоўніцтва БХД з іншымі беларускімі дэмакратычнымі партыямі і арганізацыямі.

Апроч таго, удзельнікі Нацыянальнай Рады абмеркавалі правядзенне шэрагу кампаній: у прыватнасці, у абарону палітвязняў, за




сямейныя каштоўнасці, супраць артыкулу 193 крымінальнага кодэксу Беларусі, а таксама ўмацаванне і развіццё рэгіянальных структур БХД. Таксама было прынята рашэнне адрадзіць па ўсёй краіне Рады народных дэпутатаў. Актывісты, якія паводле афіцыйных вынікаў не ўвайшлі ў мясцовыя саветы дэпутатаў, самастойна займаюцца мясцовымі праблемамі ў беларускіх рэгіёнах.

Паводле задумы, Рада народных дэпутатаў стане альтэрнатывай мясцовым саветам, з нараканнямі на якія больш за ўсё звяртаюцца людзі да прадстаўнікоў дэмакратычных арганізацый. «80% усіх тых акцый, якія праводзілі – збор подпісаў, розныя лакальныя праблемы – былі паспяховымі. Гэта значыць, што мы можам нават цяпер дабівацца лакальных перамог, важных для тых людзей, якія жывуць на гэтай тэрыторыі» – адзначыў адказны сакратар Партыі Дзяніс Садоўскі

Да таго ж на Нацыянальнай Радзе былі прынятыя дзве заявы з патрабаваннем вызваліць і рэабілітаваць усіх палітвязняў, а таксама спыніць ціск на сябраў БХД і спробы іх дыскрэдытацыі.



Па сканчэнні Нацыянальнай Рады прайшлі семінары для сябраў і прыхільнікаў БХД: ідэалогія БХД і «прынцыпы дзейнасці хрысціянскай дэмакратыі».

# БХД патрабуе спыніць ціск на сваіх сябраў і спробы іх дыскрэдытацыі!



**Аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» 17 верасня на пасяджэнні Нацыянальнай Рады прыняў заяву, у якой патрабуе спыніць ціск на сваіх кіраўнікоў і сябраў, а таксама спробы іх дыскрэдытацыі.**

На гэтым тыдні сустаршыня аргкамітэта БХД Георгій Дзмітрук быў выклікала да сябе начальніцай аддзела дэкларавання прыбыткаў і маёмасці кіравання кантролем за падаткаабкаладаннем індывідуальных прадпрымальнікаў і фізічных асобаў інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па Берасцейскай вобласці Лідзій Ігнацеўна Прашчуровіч. У тэлефоннай размове яна паведаміла Георгію Дзмітруку, што ў яго «вялікія праблемы».

Разам з тым, як паведаміў сустаршыня БХД, да цэркваў, памяшканні для якіх ён здае, неаднаразова прыходзілі людзі ў цывільным ды здымалі ўсіх людзей, што ўваходзілі ў цэрквы, а таксама перапісвалі нумары прыпаркаваных машынаў.

«Цалкам верагодна, што ўлады рыхтуюцца да чарговай правакацыі. Магчыма, неўзабаве на БТ з'явіцца чарговы фільм супраць БХД», - адзначыў сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі.

*Заява*

*Мы, беларускія хрысціянскія дэмакраты, занепакоены фактамі ціску на сустаршыню аргкамітэта па стварэнні партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя Георгія Дзмітрука з боку органаў падатковай інспекцыі цягам апошняга месяцу.*

*Мы адзначаем , што падобны ціск аказваўся на кіраўніцтва аргкамітэта і рэгіянальных кіраўнікоў цягам 2009-2010 гг.*

*Лічым, што падобныя дзеянні носяць палітычна матываваны характар і з'яўляюцца недапушчальнымі.*

*Таксама мы абураныя фактамі спробы ціску на царкоўную супольнасць, у якую ўваходзіць Георгій Дзмітрук.*

*Патрабуем спыніць усялякія спробы палітычнага ціску і дыскрэдытацыі кіраўнікоў і сяброў аргкамітэту з боку дзяржаўных органаў і сілавых структур.*

# БХД патрабуе вызваліць і рэабілітаваць усіх палітвязняў

**Аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» 17 верасня на пасяджэнні Нацыянальнай Рады прыняў заяву, у якой патрабуе вызвалення і рэабілітацыі ўсіх палітвязняў без выключэння.**




***Зварот***

*Мы, беларускія хрысціянскія дэмакраты, вітаем вызваленне палітычных вязняў і патрабуем неадкладнага вызвалення ўсіх тых, хто дагэтуль застаецца за кратамі, у першую чаргу: Паўла Севярынца, Алеся Бяляцкага, Мікалая Аўтуховіча, Змітра Бандарэнкі, Дзмітрыя Уса, Мікалая Статкевіча, Змітра Дашкевіча, Эдуарда Лобава, Андрэя Саннікава.*

*У той жа час, мы лічым абсалютна недастатковым вызваленне палітвязняў з-за кратаў. Мы настойваем на абавязковай поўнай рэабілітацыі ўсіх асуджаных па палітычных матывах.*

*Мы, беларускія хрысціянскія дэмакраты, выступаем выключна за негвалтоўныя метады барацьбы і асуджаем любыя спробы гвалтоўных дзеянняў у грамадстве. Пры гэтым мы таксама лічым недапушчальным парушэнне прынцыпу роўнасці ўсіх грамадзянаў краіны перад законам і вынясення палітычна матываваных прысудаў.*

*Мы лічым, што прысуд, вынесены Яўгену Васьковічу, палітычна матываваны. Вырак, які быў вынесены, з'яўляецца занадта жорсткім і абсалютна неадэкватным учыненаму. Той тэрмін, які Яўген Васьковіч адбыў у зняволенні, мы лічым дастатковым для пакарання за ягоны ўчынак.*

*Акрамя таго, адміністрацыя калоніі ўвесь час парушае правы Яўгена, у прыватнасці, права на свабоду сумлення.*

*Мы патрабуем спыніць здзекі і неадпаведныя адносіны да Яўгеўна з боку адміністрацыі калоніі. Мы патрабуем пераглядзець прысуд, вынесены Яўгену Васьковічу.*

*Таксама мы патрабуем перагледзець прысуды, вынесеныя Ігару Аліневічу, Аляксандру Францкевічу, Мікалаю Дзядку, Арцёму Пракапенку і Паўлу Сырамалотаву, на прадмет іх законнасці і адэкватнасці ўчыненаму.*

*Мы звяртаемся да праваабарончых арганізацый, палітычных партый, міжнароднай супольнасці з заклікам падтрымаць гэты зварот і выступіць у абарону Яўгена Васьковіча і іншых палітвязняў.*

# Анатоль Міхнавец: партыя патрабуе рэформаў



**Анатоль Міхнавец нарадзіўся ў 1975 годзе ў Менску. Беларус. Праваслаўны. Сябра Нацыянальнай Рады БХД. Прадстаўнік БХД у Польшчы. Заснавальнік і кіраўнік арганізацыі «Беларуская Нацыянальная Памяць». Міжнародны каардынатар «Звязу для Дэмакратыі ў Беларусі».**

***Анатоль, у 1990-я х гадах Вы былі адным з маладых лідараў беларускага нацыянальнага руху. Як і кіраўніцтва Маладога Фронту, што ініцыявала аднаўленне БХД, Вы прыйшлі да хрысціянскай дэмакратыі. Так склаўся лёс – ці гэта заканамернасць?***

Мае бацькі беларусы, нарадзіўся ў Беларусі і для мяне было натуральна далучыцца да нацыянальнага руху. У часе маёй дзейнасці, прыйшло разуменне, што пабудаваць Беларускую дзяржаву магчыма толькі на нацыянальным, праўдзівым, справядлівым падмурку. Міжваеннае БХД было менавіта такім падмуркам. Прыкладу ўсе намаганні, каб адроджаная БХД была годным гэтага імя і прывяла Беларускі Народ да годнага жыцця.

***Анатоль, Вы практыкуючы праваслаўны. Што для Вас, верніка, вера?***

Мая вера – гэта той падмурак, які дае мне магчымасць быць лепшым, пазбаўляцца ад заганаў. Тое, што паказвае галоўнае і сапраўднае. Тое, што змяніла мяне ў лепшы бок.

***Падчас прэзідэнцкай кампаніі 2010 года многія запомнілі Вас як моцнага арганізатара пікетаў і паездак, вытрыманага і грунтоўнага кіраўніка. Як вы лічыце, ці можна надаць большага прафесіяналізму, упарадкавання і эфектыўнасці сённяшняй Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі?***

Перакананы, мы павінны зрабіць вялікія высновы з выбарчай кампаніі. Яна паказала рэальны стан рэчаў. Сумны стан. Партыя патрабуе рэформаў. Маю ідэі і прапановы, спадзяюся на іх рэалізацыю.

**Дзякуючы арганізаванай Вамі кампаніі салідарнасці польскія ўлады адмовіліся выдаваць беларускаму рэжыму прадпрымальніка Андрэя Жукаўца. Як Вы мяркуеце, чаму ўдалося перамагчы ў гэтай гучнай палітычнай справе?**

У справе Андрэя Жукаўца перамога можа быць хуткай, калі будзе рэальная Беларуская Салідарнасць. Нажаль, пакуль да гэтага далёка. Справа цягнецца 12 гадоў. Звяртаюся да ўсіх па дапамогу. Звароты да ўладаў Польшчы і Еўразьвязу, прысутнасць на судах, вось тыя простыя рэчы, якія можа зрабіць кожны.

***Анатоль, Вы заснавальнік арганізацыі «Беларуская Нацыянальная Памяць». Як і БХД, легендарная БНП (Беларуская Незалежніцкая Партыя) у 1930-40-я змагалася і з камунізмам, і з фашызмам. Чым займаецца БНП зараз?***

Даследуем, шануем, прапагандуем. Вяртаем нацыянальную памяць.

***Для Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, заснаванай святарамі на пачатку XX стагодзя, сёння надзвычай важна наладзіць плённую супрацу з Царквой. Як Вы лічыце, што трэба зрабіць партыі для ўмацавання ідэй хрысціянскай дэмакратыі ў царкоўным асяроддзі?***

Царква ведае пра БХД, ведае нашую праграму. Зараз чарга супрацы і рэальных справаў. Хай вернікі праз дзейнасць БХД убачаць, што ў XXI стагодзі хрысціянін павінен быць актыўны ў грамадскім жыцці.

***Анатоль, вы доўгі час прадстаўлялі БХД у Польшчы. Зараз Польшча старшынюе ў Еўразвязе. Якое Ваша стаўленне да аб'яднанай Еўропы?***

Што можа Еўропа зрабіць для Беларусі, і Беларусь для Еўропы? Для нас беларусаў, важна пазбавіцца ад ілюзій і марных спадзяванняў. Праўдай ёсьць тое, што ў нас ёсць сябры ў Еўропе, але Еўразвяз – гэта прагматычная і бюракратычная структура. Мы мусім будаваць Беларусь, а не спадзявацца на «падарункі» з Захаду. Мы ў Еўропе – зараз галоўная задача застацца Беларуссю.

# Алег Аксёнаў, Магілёў: без палітыкі няма эканомікі



*Алег Аксёнаў, намеснік кіраўніка Магілёўскай гарадской арганізацыі БХД*

***Як вы лічыце, што БХД павінна прапанаваць беларускаму народу ў час вострага эканамічнага і палітычнага ціску?***

Перадусім БХД павінна прапанаваць адзінства, паколькі паасобку вельмі складана змагацца з сістэмай. Я працую на прадпрыемстве, дзе напрацягу паловы года затрымліваюць заробкі. Апошні раз выплаты затрымалі на 10 дзён. Працоўным гэта не падабаецца, шмат хто ў размовах выказвае сваю незадаволенасць. Але, калі я прапанаваў сустрэцца з кіраўніцтвам прадпрыемства, каб абмеркаваць праблему, сабралося толькі з дзясятак чалавек.Таму неабходна больш смеласці, больш еднасці. Улада сама нічога не прапануе, толькі чарговыя абяцанкі, якія заканчваюцца нічым ператвараюцца ў звычайную хлусню.

***Як вы ставіцеся да Народнага сходу? Ці падтрымліваеце ўдзел БХД у акцыі 8 кастрычніка?***

Я ведаю пра пытанні, якія плануецца вынесці на Народны сход. Яны з большага эканамічныя. Але, на маю думку, спачатку трэба вырашаць палітычныя пытанні, а пасля ўжо эканамічныя. Аднаго без іншага быць не можа. Гэтыя пытанні заўсёды ідуць у звязцы. У межах тых абмежванняў, якія накладвае дзяржава, без палітычных зменаў мы нічога не зможам вырашыць.

Разам з тым «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» прымае ўдзел у падрыхтоўцы сходу. Магілёўскі аргкамітэт БХД увайшоў у склад аргкамітэту па правядзенні Народнага сходу. Перадусім у дадзенай акцыі, я бачу магчымасць камунікацыі з людзьмі, бо менавіта дзеля гэтага мы, палітычная партыя, і існуем.

***Ці лічыце вы неабходным для БХД далучыцца да маўклівых акцый штосераду?***

Я прыхільна стаўлюся да такіх акцый хаця б таму, што яны паказваюць уладзе якая ці не на кожным куце крычыць пра сваю ўсенародную



падтрымку пра тое, што народ з ёй тое, што народ не з ёй, што вельмі шмат незадаволеных. Гэта вельмі добрае пачынанне і чым больш будзе такіх пачынанняў, тым хутчэй мы дасягнем поспехаў.

Але я не думаю, што БХД павінна далучацца да правядзення маўклівых акцый пратэсту. Гэта больш фармат маладых. Удзел у такіх акцыях – гэта асабістая справа кожнага сябра БХД: калі камусьці гэтыя акцыі падабаюцца, няхай бярэ ў іх удзел, калі не падабаюцца – хай не бярэ. Разам з тым неабходна падтрымліваць тых, каго затрымліваюць падчас такіх акцый. Бо гэтыя затрыманні – самае сапраўднае злачынства, як з пункту гледжання закону, гэтак і маралі.




*Алег Аксёнаў – адзін з арганізатараў Магілёўскага праваабарончага форума*

# Дзяніс Дашкевіч, Рагачоў: без палітыкі няма эканомікі



*Дзяніс Дашкевіч, Кіраўнік Рагачоўскай раённай арганізацыі БХД*

***Як вы лічыце, што БХД павінна прапанаваць беларускаму народу ў гадзіну вострага эканамічнага і палітычнага ціску?***

Я думаю, што БХД, у першую чаргу, павінна прапанаваць усім палітычным дэмакратычным структурам рэальнае аб'яднанне. Але не толькі на словах як гэта адбываецца цяпер. Народ не пацягнецца да аніводнага дэмакратычнага руху, бачачы, што мы не можам разабрацца паміж сабой. Яскравы таму прыклад зварот І. Халіп да Я. Раманчука.

Просты народ успрымае любую дэмакратычную партыю, як апазіцыйную, і промах кожнага апазіцыянера, кладзе цень на кожнага прадстаўніка дэмакратычных сілаў Беларусі.

Таксама БХД неабходна распрацаваць выразную праграму выхаду з крызісу і з гэтай праграмай рыхтавацца да парламенцкіх выбараў.

***Як вы ставіцеся да Народнага сходу? Ці падтрымліваеце ўдзел БХД у акцыі 8 кастрычніка?***

Катэгарычна не прымаю ўдзел БХД у Народным сходзе, бо незразумела хто яго арганізуе. Калі з'явілася такая ініцыятыва, у БХД ніхто не спытаў меркавання з гэтай нагоды. Таму з якой нагоды мы павінны дапамагаць яго арганізатарам? Тым больш, некаторыя з арганізатараў Народнага сходу час ад часу не зусім карэктна ставяцца і да нашай партыі. Асабіста я супраць гэтага мерапрыемства.

***Ці лічыце вы неабходным для БХД далучыцца да маўклівых акцый штосераду?***

Лічу, што актывісты БХД, могуць там ўдзельнічаць толькі як шэраговыя грамадзяне, за той простай прычыны, што не мы гэтую ініцыятыву была прыдумалі, але дапамогу ў распаўсюдзе інфармацыі можна аказаць, але не ў якім разе не ставіць сябе ў якасці арганізатараў РПСС. Асабіста я не думаю, што такім чынам можна дамагчыся зменаў, гэта хутчэй спосаб паказаць сваю грамадзянскую пазіцыю проста выказаць пратэст.

# СПЫНІЦЬ КАТАВАННІ ЗМІТРА ДАШКЕВІЧА!



**«Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» сумесна з «Маладым Фронтам» і «Маладой Беларуссю» 27 верасня прынялі сумесную заяву з патрабаваннем спыніць катаванні лідара МФ і сябра БХД Змітра Дашкевіча.**

*Лідар «Маладога Фронту» Зміцер Дашкевіч знаходзіцца ў **нечалавечых** умовах. Ціск, які аказваўся на яго з моманту незаконнага арышту 18 снежня 2010 г., зараз перайшоў у адкрытыя катаванні. Яго пазбаўляюць сну і ежы, спрабуюць зламаць псіхалагічна.*

*Пад пагрозай апынулася здароўе і жыццё маладзёвага палітычнага лідара, хрысціянскага **шчырага** верніка.*

*Мы патрабуем спыніць катаванні Змітра Дашкевіча. Мы патрабуем неадкладнага вызвалення ўсіх палітычных зняволеных і іх поўнай рэабілітацыі.*

*Павал Севярынец, сустаршыня БХД*

*Віталь Рымашэўскі, сустаршыня БХД*

Аляксей Шэін, сустаршыня БХД

Георгі Дмітрук, сустаршыня БХД

Алесь Кіркевіч, намеснік старшыні «Маладога Фронту»

Артур Фінькевіч, старшыня руху «Маладая Беларусь»

# Дэлегацыя БХД засведчыла высокі ўзровень дэмакратычнасці мясцовых выбараў у Нарвегіі

**Дэлегацыя беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў наведала Нарвегію па запрашэнні нарвежскай Хрысціянска-дэмакратычнай партыі з мэтай азнаямлення з арганізацыяй выбарчага працэсу ў гэтай краіне.**

12 верасня ў Нарвегіі адбыліся выбары ў рэгіянальныя і муніцыпальныя органы мясцовага самакіравання, у якіх удзельнічалі болей за 14 палітычных партый краіны, у тым ліку і КрФ – хрысціянска-дэмакратычная партыя Нарвегіі. Тры рэгіянальныя лідары БХД мелі магчымасць на працягу шасці дзён знаёміцца з выбарчай кампаніяй рэгіянальнай і мясцовых арганізацый КрФ у рэгіёне Ругаланд, абмяняцца досведам у правядзенні выбарчых кампаніяў з нарвескімі хрысціянскімі дэмакратамі, наведаць агітацыйныя мерапрыемствы КрФ, назіраць за дэбатамі і сустрэчамі кандыдатаў ад хрысціянскіх дэмакратаў з выбарцамі кандыдатамі ад іншых канкуруючых партый.

У дзень выбараў хрысціянскія дэмакраты з Беларусі мелі магчымасць назіраць за працэсам галасавання і падлікам галасоў на некалькіх выбарчых участках рэгіёну Ругаланд.

Гарадзенскі абласны каардынатар аргкамітэта БХД Мікалай Баўсюк высока ацэньвае арганізацыю выбараў у Нарвегіі, іх дэмакратычнасць і празрыстасць: «У нарвежцаў няма нават разумення таго, што выбары можна сфальсіфікаваць. Склад выбарчых камісій, у якія ўваходзяць прадстаўнікі розных канкуруючых партый, не дае магчымасцяў для арганізацыі маніпуляцыяў з галасамі выбарцаў».

Магілёўскі гарадскі каардынатар аргкамітэта БХД Таццяна Шамбалава падкрэслівае ролю партый у палітычнай сістэме Нарвегіі і адказнасць палітычных лідараў: «У Нарвегіі ўся палітычная барацьба накіраваная і верціцца вакол вырашэння мясцовых праблем, уладкавання супольнага жыцця ў муніцыпалітэце ці ў рэгіёне. Не ўлада дзеля ўлады, дзеля амбіцый, уласнага «Я» ці гаманца, а дзеля таго, каб закласці ў муніцыпальны бюджэт грошы на адкрыццё школы, якой бракуе, пабудаваць тунэль, дзе неабходна скараціць і зрабіць больш зручнай ці бяспечнай дарогу».

Рэгіянальны лідар з Мастоў Зміцер Кухлей таксама звяртае ўвагу на высокую палітычную культуру нарвежцаў і ролю мясцовага самакіравання ў развіцці рэгіёнаў і муніцыпалітэтаў Нарвегіі: «Усе




кандыдаты і партыі прыхільна ставяцца адзін да аднаго і часам з'яўляюцца сябрамі, нягледзячы на розныя палітычныя прыхільнасці. У Нарвегіі няма той атмасферы нянавісці да сваіх ідэалагічных супернікаў, якая характэрна для Беларусі, – усе клапоцяцца пра дабрабыт сваіх муніцыпалітэтаў і нават не ўяўляюць таго, каб мясцовыя адміністрацыі падтрымлівалі нейкага канкрэтнага кандыдата. І што самае галоўнае – тут людзі праз удзел у выбарах і падтрымку пэўнай палітычнай праграмы вырашаюць, дзе ім будаваць дарогі і колькі грошай накіроўваць на школы, лякарні і мясцовыя адміністрацыі».

Рэгіянальныя лідары БХД і КрФ таксама абмеркавалі магчымасці і пэрспектывы далейшай супрацы паміж хрысціянскімі дэмакратамі Беларусі і Нарвегіі.

# Беларускія і літоўскія хрысціянскія дэмакраты абмяняліся досведам удзелу ў мясцовых выбарах







**Прадстаўнікі аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» на чале са сустаршынём аргкамітэта БХД Віталём Рымашэўскім 24 верасня наведалі Літву, дзе правялі сустрэчу з сябрамі партыі Звяз Айчыны – Літоўскія хрысціянскія дэмакраты (TSLK), якія зяўляюцца дэпутатамі віленскага гарадскога муніцыпалітэта.**

Падчас сустрэчы хрысціянскія дэмакраты Беларусі і Літвы абмеркавалі выбарчую сістэму і мясцовае самакіраванне ў абедзьвюх краінах.

Дэпутат Відас Урбанавічус распавёў пра сістэму мясцовага самакіравання і паўнамоцтвы мясцовых выбарчых органаў у Літве, а яго калега Раса Башкене – пра выбарчую сістэму і ролю партый на мясцовых выбарах у гэтай краіне.

Алесь Шамякін расказаў аб выбарчай сістэме і паўнамоцтвах мясцовых саветаў у Беларусі, а актывісты БХД, якія маюць досвед удзелу ў мясцовых выбарах – аб перашкодах, з якімі яны сутыкаліся падчас выбарчых кампаній.

Пасля сканчэння канфэрэнцыі прадстаўнікі БХД узялі ўдзел у экскурсіі па Вільні, а таксама ў фэстывале нацыянальных рамёстваў, страў і культур «Кірмаш народаў».

# У Берасці адбыўся праваабарончы форум у падтрымку палітвязняў




**3 верасня ў Берасці адбыўся праваабарончы форум у падтрымку палітвязняў, ініцыяваны сябрамі аргкамітэта БХД. У форуме ўзялі ўдзел мясцовыя палітычныя актывісты, сваякі палітвязняў, праваабаронцы, а таксама журналісты і дыпламаты – усе, каму неабыякавы лёс рэпрэсаваных беларускім рэжымам – агулам каля 50 чалавек. З Менску на форум прыехаў адзін са сустаршыняў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Віталь Рымашэўскі, які таксама мае ўмоўны тэрмін за Плошчу-2010.**

На форуме абмеркавалі праблему палітвязняў, якія зараз утрымліваюцца ў адпаведных ўстановах на Берасцейшчыне. Па прапанове Берасцейскага каардынатара БХД Зміцера Шурхая быў створаны берасцейскі абласны камітэт дапамогі рэпрэсаваным.

Удзельнікі праваабарончага форуму таксама прынялі зварот да ўладаў з патрабаваннем неадкладнага вызвалення і рэабілітацыі ўсіх палітычных вязняў, спынення крымінальных справаў і зняцця судзімасці з ужо асуджаных па палітычных матывах.

Гэты зварот пасля заканчэння форуму быў перададзены адміністрацыі Івацэвіцкай калоніі. Дзеля гэтага ў Івацэвічы накіравалася адмысловая дэлегацыя з удзельнікаў форуму на чале з экс-кандыдатам у прэзідэнты, сустаршынём БХД Віталём Рымашэўскім. Прэс-службе БХД Рымашэўскі паведаміў, што адміністрацыя калоніі таксама была папярэджаная пра пільны кантроль з боку грамадскасці, каб у дачыненні да палітвязняў выконваліся міжнародныя нормы ўтрымання зняволеных.

Такі самы зварот у нядзелю 4 верасня быў перададзены і ў спецкамэндатуру вёскі Куплін Пружанскага раёну, дзе на «хіміі» утрымліваецца палітзняволены сустрашыня БХД Павал Севярынец.

Нагадаем, што на Берасцейшчыне акрамя Севярынца адбываюць пакаранне яшчэ 3 палітвязні: Фёдар Мірзаянаў, Эдуард Лобаў і Мікалай Аўтуховіч, якія ўтрымліваюцца ў Івацэвіцкай калоніі «Ваўчыныя норы».



# На Плошчы Незалежнасці 300 чалавек маліліся за Беларусь




**17 верасня, на Плошчы Незалежнасці каля Чырвонага Касцёлу адбыўся вялікі евангелізацыйны канцэрт, гледачамі якога сталі каля 300 чалавек. У ім удзельнічалі разнастайныя хрысціянскія гурты, спевы якіх былі чуваць на ўсёй Плошчы.**

Паміж спевамі і танцамі ўдзельнікі канцэрту заклікалі беларусаў да пакаяння, а напрыканцы маліліся, каб Божая свабода, справядлівасць і праўда запанавалі на Беларусі.



Арганізатарка фэсту Юлія Фралова з супольнасці Каштоўная Перліна Чырвонага Касцёлу ў інтэрв’ю прэсслужбе БХД распавяла:

«Я лічу, што гэта была вялікая падзея для мяне асабіста і для ўсёй нашай краіны, што ў сэрцы Менску на Плошчы Незалежнасці ля Чырвонага касцёла адбылася Евангелізацыя і малітва за Беларусь. Былі добрыя музыкі, апаратура. Гучалі спевы толькі на беларускай мове тэматычныя, малітоўныя, якія несьлі Добрую Вестку аб Вольнасці, Праўдзе, Еднасці ў Хрысце. Панавала атмасфера радасці, любові і супакою.

Паміж спевамі гучалі ўрыўкі з кнігі «Люблю Беларусь» Паўла Севярынца і малітвы за нашую краіну. Важна, што на малітвах прысутнічалі два галоўныя моманты: запрашэнне Ісуса ў нашую краіну, каб Ён стаў Валадаром Беларусі, і адмысловая малітва за Беларусь, калі мы маліліся аб вызваленні ад усялякага зла, аб пакаянні нашага народу і аб пераменах у сэрцы і ў жыцці людзей.

Адвагі ў правядзенні канцэрту мне дадаваў адзін цудоўны знак: герб Менску, сімвал маці Божай, на будынку педадагічнага ўніверсітэта. Панна Марыя дзіўным чынам узвышался, панавала па-над статуяй Леніна, што для мяне вельмі сімвалічна.

Міліцыя нам не перашкаджала. Слухачы канцэрту не хацелі разыходзіцца і прасілі, каб такія канцэрты адбываліся рэгулярна і часцей. Паводле сведчанняў гэтых людзей, яны на некалькі гадзінаў адчулі сябе ў нашай краіне свабоднымі. Веру, што нашыя перамены могуць распачацца перадусім з перамен духоўных. Мы пераможам толькі тады, калі ўсялякія нашыя масавыя акцыі на плошчах будуць пачынацца з супольнай малітвы».

Скончыўся канцэрт беларускім рэлігійным гімнам «Магутны Божа», які ўдзельнікі і гледачы спявалі, узяўшыся за рукі.



# Справаздача аб правядзенні ўнутрыпартыйнага маніторынгу арганізацыйнага камітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя»

(у скарачэнні)



У чэрвені 2011 г. БХД пачала распрацоўку новай стратэгіі партыі, якая будзе вызначаць развіццё партыі на наступныя тры гады. У якасці першага этапу распрацоўкі стратэгічнага плану ў ліпені-жніўні 2011 года даследчая група партыі правяла ўнутрыпартыйны маніторынг і маніторынг камунікацыйнай палітыкі партыі, які быў арганізаваны ў форме фокус-груп, індывідуальных інтэрв'ю з заснавальнікамі і прыхільнікамі партыі, рэгіянальнымі каардынатарамі, сябрамі выканаўчых органаў і лідарамі партыі, журналістамі незалежных СМІ, анкетавання сяброў арганізацыі.

**У рамках даследвання было праведзена 18 дыскусій у фокус-групах і 26 інтэрв'ю з сябрамі і прыхільнікамі партыі ў 17 населеных пунктах краіны. Усяго было апытана 126 чалавек.** Дыскусіі ў фокус-групах, індывідуальныя інтэрв'ю і анкетаванне праводзіліся ва ўмовах ананімнасці, каб забяспечыць максімальна шчырыя адказы без фактараў знешняга ціску.

Маніторынг паказаў, што моцнай перавагай Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі з'яўляецца матывацыя актывістаў як падчас прыняцця рашэння аб далучэнні да БХД, так і падчас далейшага ўдзелу ў партыйнай дзейнасці. **Матывам далучэння для БХД пераважнай большасці актывістаў партыі з'яўляецца хрысціянскі ўхіл і прапагандаванне партыяй хрысціянскіх каштоўнасцяў у беларускім грамадстве, а таксама нацыянальна-дэмакратычная сутнасць БХД і адстойванне партыяй ідэі незалежнасці краіны.**

Частка актывістаў прыйшла ў партыю дзеля самарэалізацыі, адчуваючы грамадскую дзейнасць як «ўнутраную патрэбу» кожнага актыўнага чалавека. Асобныя актывісты далучыліся да БХД, каб сумеснымі намаганнямі змяніць пануючы рэжым у краіне. Пры гэтым некаторыя актывісты адзначаюць, што працэдура прыняцця ў партыю і зваротная сувязь паміж каардынатарамі і актывістамі адрозніваецца ў БХД у лепшы бок у параўнанні з іншымі палітычнымі партыямі.

Падчас дыскусіі было выяўлена некалькі матываў, па якіх людзі застаюцца ў партыі:

- перспектывы самарэалізацыі ў партыі;
- прыхільнасць да ідэалогіі і каштоўнасцяў партыі;
- жаданне змяніць існуючы палітычны рэжым у краіне;

ці адначасова некалькі з вышэйпералічаных матываў.

У значнай колькасці рэспандэнтаў адзначаецца высокі ўзровень лаяльнасці да партыі, што сведчыць пра існаванне вялікага крэдыту даверу ад кіраўніцтва партыі. Актывісты не чакаюць значнай дапамогі і не выказваюць вялікіх чаканняў да партыі па падтрымцы ў выпадку ўзнікнення праблем. Некалькі заўвагаў удзельнікаў дыскусіі сведчаць пра такое стаўленне: «Я прыйшоў у партыю, каб нешта даць, а не атрымаць ад партыі» ці «Як партыя скажа, так я і зраблю».

**Рэспандэнты па-рознаму ставяцца да магчымасці палітычнай кар'еры. Такое стаўленне актыву партыі падкрэслівае адсутнасць яснага ўяўлення ў партыі аб сваіх стратэгічных задачах у сённяшніх умовах.**

## РЭПРЭСІІ І ІХ УПЛЫЎ НА ЎДЗЕЛ АКТЫВІСТАЎ.

Адмоўная матывацыя да партыйнай дзейнасці, якая, у асноўным, зыходзіць ад знешняга асяроддзя і амаль адсутнічае, па словах рэспандэнтаў, унутры партыі, па-рознаму ўплывае на дзейнасць актывістаў з рэгёнаў і сталіцы: чым большы горад, у якім дзейнічаюць актывісты, тым менш на іх дзейнасць ўплываюць рэпрэсіі з боку ўладаў і наадварот. У невялікіх гарадах актывісты ў меншай ступені займаюцца палітычнай дзейнасцю, асабліва ў міжвыбарчы перыяд, з-за страху магчымага пераследу з боку мясцовых уладаў: яны баяцца арганізоўваць публічныя мерапрыемствы і ісці на канфлікт з уладамі.

## УНУТРЫПАРТЫЙНАЯ ЕДНАСЦЬ І ВЕДАННЕ ПАРТЫЙНАЙ ІДЭАЛОГІІ.

БХД вызначаецца высокай ступенню адзінства кіраўніцтва партыі, і згоды сябраў партыі з ідэалогіяй, прынцыпамі і мэтамі партыі ці перавагамі лідараў, што сведчыць аб высокім узроўні ўнутрыпартыйнай згоды. Адначасова варта адзначыць, што **ступень унутрыпартыйнай згоды памяншаецца з аддаленасцю рэгіянальнай арганізацыі ад Цэнтра і лідэраў партыі: рэгіянальныя актывісты на перыферыі ў большай ступені схільныя выказваць крытычныя заўвагі адносна дзейнасці агульнанацыянальных лідараў.**

Сярод актывістаў партыі склалася ўнутрыпартыйная згода адносна базавых каштоўнасцяў, ідэалогіі і праграмных палажэнняў, якія прапагандуе партыя. **Аднак веданне праграмы партыі ў вялікай колькасці рэспандэнтаў пераважна абмяжоўваецца лозунгамі, нават у рэгіянальных каардынатараў няма цэласнага разумення ідэалогіі партыі, яе каштоўнасцяў і праграмы.**

## ДАСЯГНЕННІ І НЯЎДАЧЫ Ў ДЗЕЙНАСЦІ ПАРТЫІ.

Складаныя знешнія ўмовы існавання палітычных партый у краіне, незарэгістраваны статус БХД паўплывалі на вызначэнне рэспандэнтамі дасягненняў і няўдач партыі.

Дасягненні партыі ў асноўным звязаныя з удзелам партыі ў прэзідэнцкіх выбарах і агульнанацыянальных кампаніях, якія мелі вялікі рэзананс у грамадстве і паўплывалі на вырашэнне праблемы, што ўзнімалася партыяй:

- **пашырэнне вядомасці партыі за кошт удзел БХД у кампаніі мясцовых выбараў і прэзідэнцкай кампаніі;**
- **добрае пазіцыянаванне і рэклама партыі кандыдатам ад БХД на прэзідэнцкіх выбарах 2010 г.;**
- **дынамічнае развіццё партыі і заняццё вядучага месца сярод іншых палітычных сіл краіны. На думку прадстаўніка Радыё «Рацыя», у Мінску БХД займае трэцюю пазіцыю па рэйтынгу сярод іншых палітычных сіл пасля АГП (1-е месца), БНФ і камуністаў (якія падзя-**

**ляюць 2-е), «а БХД – на 3-м, бо яна незарэгістраваная».**

- **кампанія па забароне рэкламы акультызму.**

Няўдачы партыі, на думку значнай колькасці актывістаў, абумоўленыя, у асноўным, знешнімі прычынамі, у першую чаргу рэпрэсіўнымі дзеяннямі аўтарытарнага рэжыму, а таксама асобнымі ўнутранымі слабасцямі арганізацыі. Сярод няўдач рэспандэнты адзначаюць зняволенне лідараў партыі. Як заўважае адзін з удзельнікаў дыскусій, рэжым імкнецца шляхам зняволення лідараў пасеяць ў грамадстве страх і пасіўнасць;

- **адсутнасць дзяржаўнай рэгістрацыі партыі, якая негатыўна ўплывае на дзейнасць актывістаў партыі;**
- **працідзеянне мясцовых чыноўнікаў;**
- **кампанія ў абарону касцёла св. Язэпа, якая недасягнула мэтаў.**

Прыярытэтныя задачы партыі на бліжэйшы час з'яўляюцца ў сваю чаргу адказам удзельнікаў дыскусій, накіраваным на вырашэнне няўдач партыі, што дазволіць паменшыць уплыў фактару страху ў грамадстве і сярод актывістаў і павялічыць актыўнасць сябраў партыі, а таксама колькасць сябраў:



- Вызваленне палітвязняў;
- Атрыманне дзяржаўнай рэгістрацыі партыі.
- Актывісты прапануюць актывізаваць дзейнасць па пашырэнні вядомасці партыі праз:
- Інфармацыйную кампанію ў СМІ і сярод насельніцтва (партыйныя ўлёткі, газеты)
- Кампанію супраць карупцыі,
- PR-акцыі.

**Амаль усе актывісты рэгіянальных арганізацый называюць сярод слабых бакоў сваіх арганізацый дрэнны матэрыяльна-тэхнічны стан і адсутнасць памяшкання / офіса для правядзення сходаў і сустрэч актыву.**

**АРГАНІЗАЦЫЙНАЕ РАЗВІЦЦЁ: УВАГА НА РЭГІЁНЫ**

Падчас дыскусій большасцю рэгіянальных арганізацый была падкрэсленая важнасць аказання партыяй прававой дапамогі сваім актывістам, у першую чаргу ў выпадку рэпрэсіяў з боку мясцовых уладаў. Партыі неабходна распрацаваць стратэгію далучэння да партыйнай дзейнасці студэнтаў юрыдычных факультэтаў ці ўжо дзеючых цэнтраў прававой абароны. У сітуацыі адсутнасці як чалавечых, так і фінансавых рэсурсаў для аказання прававой дапамогі актывістам, выйсце бачыцца ў выкарыстанні існуючых цэнтраў прававой дапамогі ў рэгіёнах, кантактныя звесткі пра якія неабходна распаўсюдзіць цэнтралізавана па ўсіх рэгіянальных арганізацыях.

Дзеля наладжвання рэгіянальнымі арганізацыямі лепшай камунікацыі з грамадствам і сродкамі масавай інфармацыі, кожнай абласной структуры неабходна рэкамендаваць падрыхтоўку прэсавых сакратароў абласных структур, якія ажыццяўлялі б штодзённы кантакт з рэгіянальнымі журналістамі незалежных СМІ ці спрыялі сталым сувязям паміж арганізацыямі БХД у рэгіёне і рэгіянальнымі прадстаўнікамі незалежных СМІ.

Праблемы з партыйнай лаяльнасцю, дрэнным веданнем ідэалогіі, каштоўнасцяў і праграмы арганізацыі ў асобных рэгіянальных арганізацыях, якія знаходзяцца на аддаленасці ад Цэнтра, патрабуюць паляпшэння сістэмы сувязі паміж цэнтрам і рэгіёнамі, ды паміж абласнымі і раённымі ўзроўнямі партыі, а таксама правядзення адпаведных трэнінгаў і семінараў.

**ФІНАНСАВАННЕ: СТАЎКА НА ЎНУТРАНЫЯ РЭСУРСЫ.**

Адной з галоўных праблем, якія перашкаджаюць далейшаму развіццю і росту партыі, з'яўляецца дрэннае фінансава-тэхнічнае забеспячэнне партыі. Выйсцем з гэтай сітуацыі большасць сябраў партыі называе партыйныя ўнёскі. **Пераважная большасць рэспандэнтаў становіча ставіцца да ідэі збору партыйных унёскаў.** Складанасць выклікае механізм збору і магчымыя санкцыі з боку ўладаў з-за незарэгістраванага характару дзейнасці партыі, дзеля чаго Управе неабходна стварыць спецыяльныя рэкамендацыі па механізме збору партыйных унёскаў. Аб падтрымцы ўвядзення сяброўскіх унёскаў сведчаць і дадзеныя анкетыравання, паводле якіх 154 рэспандэнта гатовыя здаваць штомесяц сяброўскія ўнёскі, 40 рэспандэнтаў гатовыя здаваць раз у тры месяцы, 38 – раз у год, а 24 рэспандэнты не гатовыя здаваць сяброўскія ўнёскі наогул.



**ПРАФЕСІЯНАЛІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ.**

Калектыўныя стымулы, якія пераважаюць у працэсе далучэння актывістаў да партыі, працягваюць мець пераважнае значэнне сярод матываў далейшай дзейнасці актывістаў партыі і прымушаюць іх заставацца ў БХД. Аднак з-за цэлага шэрагу прычын (прафесійнага «выгарання», адсутнасці часу, рэпрэсіўных дзеянняў улады і інш.) актывісты, у тым ліку рэгіянальныя каардынатары, з цягам часу менш увагі надаюць партыйнай дзейнасці, што выклікае шэраг негатыўных наступстваў для развіцця партыі. У такой сітуацыі партыі ў большай ступені неабходна выкарыстоўваць селектыўныя стымулы, якія маюцца ў арсенале партыі, для стварэння большай матывацыі актывістаў да партыйнай дзейнасці.

**У першую чаргу партыя павінна распрацаваць і давесці да ўсіх актывістаў ясную і зразумелую праграму кар'ернага росту актывістаў у партыі, а таксама праграму падрыхтоўкі функцыянераў і лідараў рэгіянальных і нацыянальных арганізацый для фарміравання ценявога ўраду БХД.** Праграма павінна ўключаць мерапрыемствы па павелічэнні прафесійнага ўзроўню лідараў і функцыянераў партыі шляхам ўдзелу ў адукацыйных праграмах і трэнінгах, у тым ліку за мяжой.

Неабходнай з'яўляецца фінансавая кампенсацыя часу функцыянераў на ўзроўні абласных структур, якія павінны займацца арганізацыяй дзейнасці партыі ў рэгіёне на прафесійным узроўні.

З улікам значнасці ў партыі ідэалагічных і пазнавальных матываў, а таксама матыву змены палітычнага рэжыму ў краіне для павелічэння матывацыі варта распрацаваць сістэму нематэрыяльных стымулаў.

# Кіраўніцтва Партыі віншуе з вяселлем сяброў БХД Валянціну Шычко і Сяргея Анянкова

**17 верасня пабраліся шлюбам сябры Нацыянальнай Рады Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Валянціна Шычко і Сяргей Анянкоў. Шчырыя віншаванні Валі і Сяржуку!**

Сужэнцы сустрэлі адно аднаго менавіта ў менскім аргкамітэце БХД. Валянціна ў БХД - рэгіянальны каардынатар і менеджер серыі музычных дыскаў «Беларускі Хрысціянскі хіт«, а Сяржук - сакратар аднаго з раённых аркамітэтаў менскага БХД. Трэба адзначыць, што гэта міжканфесійны шлюб: Сяржук – каталік, а Валя з пратэстанцкай царквы «Сям’я Божая», але маладых дабраславілі ў абедзьвюх царкоўных супольнасцях.

Ад усіх сяброў БХД шчыра віншуем маладых! Жадаем новай сям’і Божага дабраславення, моцнага кахання, шчасця і ўзаемаразумення.












**Шаноўныя браты і сёстры!**

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газеты «Крыніца«, буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 1673435 (Марына)**.

Незалежнае інфармацыйнае выданьне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач«
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ

Аб’ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 8 кастрычника 2011г.
Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.